# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1266) ГОД XXV БЕЛАСТОК 1 ЧЭРВЕНЯ 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.


**IX З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**1 чэрвеня г. г. у Беластоку адбудзецца IX з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

**На парадку дня:**

**— даклад старшыні ГП БГКТ;**
**— справаздача Галоўнай рэвізійнай камісіі;**
**— спрэчкі;**
**— выбары новых улад;**
**— прынящце пастаноў.**

**З'езд будзе праходзіць у памяшканні ГП БГКТ (Варшаўская 11) і пачнецца ў 9.30.**

# БГКТ 1976·1980

**(Са справаздачы ГП на IX з'езд БГКТ)**

## АРГАНІЗАЦЫЯ

У справаздачным перыядзе адбыліся важныя змены ў галіне арганізацыйных спраў. У 1976 годзе таварыства перайшло на ўпрошчаную двухступенную арганізацыйную структуру: Галоўнае праўленне — гурток БГКТ.

Новая структура спрыяла бліжэйшым сувязям паміж гурткамі і Галоўным праўленнем.

У канцы 1979 года БГКТ налічвала 5871 асобу, аб'яднаную ў 181 гуртку.

У адносінах узросту стан арганізацыі прадстаўляецца наступным чынам:

ад 18 да 30 год — 3395 асоб
ад 30 да 40 год — 1367 асоб
вышэй 40 год — 1109 асоб

з наступным сацыяльным складам: рабочыя — 1495, сяляне — 1376, працоўная інтэлігенцыя — 1501, вучні сярэдніх школ і студэнты — 1373, пенсіянеры — 156 асоб.

Жанчын у БГКТ у канцы 1979 года было 2344, што складае 40% агульнай колькасці членаў.

Са статыстычных даных вынікае, што каля 70% членаў арганізацыі складаюць людзі, **маладзейшыя 30 год.**

Адукацыя членаў БГКТ у канцы 1979 года прадстаўлялася наступным чынам:

пачатковая — 1882 члены
рамесная — 1590 „
сярэдняя — 1896 „
вышэйшая — 493 „

У параўнанні з 1976 годам маем больш членаў з рамеснай і сярэдняй адукацыяй.

Члены БГКТ бяруць актыўны ўдзел у грамадска-палітычнай працы: да ПАРП належала 1101 член, ЗСЛ — 162, СД — 33 і ЗСМП — 2024 члены.

Галоўнае праўленне БГКТ на сваіх пасяджэннях узнімала канкрэтныя справы з дзейнасці Таварыства, праводзячы дакладны аналіз і падказваючы канкрэтныя крокі ў выбранай галіне.

У справаздачным перыядзе адбылося 26 пасяджэнняў Прэзідыума ГП, якія адбываліся сістэматычна, згодна з раней зацверджаным планам. Планы Прэзідыума былі выкананы ў 100%.

На пасяджэннях Прэзідыума, апрача арганізацыйных спраў, разглядаліся праблемы, вынікаючыя з выканання пастаноў З'езду, пленарных пасяджэнняў і уласных, а таксама накрэсліваліся напрамкі дзейнасці Таварыства.

## КАМІСІІ

У справаздачным перыядзе дзейнічалі наступныя камісіі Галоўнага праўлення: культуры, асветы, літаратурнае аб'яднанне, навуковы гурток і гурток лектараў.

Камісія культуры ўсебакова аналізавала культурную дзейнасць Таварыства. Штогод праводзіла яна ацэнку культурна-асветнага года, аналізавала арганізацыю конкурсаў беларускай песні, тэатральных калектываў, народных музыкантаў і зацвярджала правілы конкурсаў БГКТ.

Камісія асветы канцэнтравала сваю дзейнасць вакол спраў беларускага школьніцтва. Яна дакладна ацаніла становішча ў навучанні беларускай мовы, разгледзела стан падрыхтоўкі праграмы згодна з уводзімай рэформай школьніцтва і справу забеспячэння падставовых школ падручнікамі для навучання беларускай мовы.

У справаздачным перыядзе заўважалася далейшая актывізацыя дзейнасці літаратурнага аб'яднання „Белавежа", навуковага гуртка і гуртка лектараў.

**(Працяг на стар. 2)**






*Марыя Сак, Клаўдзія Домань і Анна Кузьміцкая з Новай Волі на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-80".* *Фота М. Шаховіча.*

# КАБ РАЗМНОЖЫЛІСЯ!

У аглядзе 11 мая г.г. абяцала прыняць удзел чатыры або пяць аматарскіх драматычных калектываў БГКТ, але на сцэне на Варшаўскай 11 свае апошнія работы паказала ўсяго два: з Бельскага беларускага ліцэя і з беластоцкага гуртка БГКТ. Можна было б капацца ў прычынах, чаму не прыехаў у Беласток той ці іншы калектыў, але гэта ўжо іншая справа.

Усё ж варта згадаць, што драматычныя калектывы не былі ў нас нялюбымі падчырыцамі. Нашыя літаратары на іх рэпертуарныя запатрабаванні адклікаліся сваімі п'есамі, а ГП БГКТ як ні як, але ўсё ж выдала некалькі зусім ладных зборнікаў сцэнічных твораў беларускіх аўтараў ад В. Дуніна-Марцінкевіча пачынаючы. Дзе толькі нараджалася задума і знаходзіліся ахвотныя да пастановкі, туды заглядаў з дапамогай працаўнік ГП БГКТ — нястомны Я. Крупа. Праўда, усяго гэтага было малавата. Гляньма, аднак, на конкурс „Беларуская песня", асабліва на ўдзел у ім народных спявачак, ці на рост этнаграфічных калектываў. Яны не карыстаюцца большай і лепшай дапамогай, чым драматычныя калектывы, а з кожным годам колькасць удзельнікаў у іх павялічваецца, мастацкі ўзровень павышаецца. Не, я таксама зусім не спяшаюся сцвярджаць, што пастаноўка на сцэне „Пінскай шляхты", „Прымакоў" ці „Мікітавага лапця" аджыла свой век і болей не захопіць нас. Гэта творы неўміручыя, залацінкі нашай нацыянальнай сцэнічнай творчасці, і да іх беларускае сцэнічнае мастацтва будзе вяртацца заўсёды. Пераканаўся я ў гэтым у мінулым годзе, калі ўбачыў на сцэне Беларускага Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы ў Мінску цікавейшую пастаноўку „Ажаніцца — не журыцца" якраз паводле вадэвіляў „Міхалка" і „Мікітаў лапаць". Песні Р. Барадуліна і М. Качана, рэжысура Б. Утора ва, мастацкае афармленне Б. Герлавана і дасканалая ігра заслужанага для беларускага тэатральнага мастацтва калектыву — усё разам дало цалкам новае, сучаснае жыццё гэтым не столькі п'есам, колькі матывам і сітуацыям, якія складаюць іх аснову. Інакш кажучы: мінскія „купалаўцы" па-цяперашняму інтэрпрэтавалі колішнія п'есы. Вынік дасканалы: перапоўненая зала, хоць гэта была саракавая ці больш пастаноўка. Жывы водгук сярод гледачоў. Вечар роднага тэатра. Вядома, нашым аматарскім калектывам не пад сілу сцэнічныя здзяйсненні такога рангу. Але гэта зусім не абазначае, што не варта спрабаваць ісці ў гэтым кірунку, узбагачаць пастаноўкі песнямі і музычным фонам, даваць ім жыццё ў новай форме, зацікавіць імі ў роўнай ступені як акцёраў-аматараў, так і гледачоў. Ды і наогул трэба шукаць новыя формы сцэнічнай творчасці.

А што такія пошукі аматарскага тэатральнага руху БГКТ зусім не чужыя, сведчыў якраз сёлетні агляд. Дванаццаць стройных, прыгожанькіх дзяўчынак-вучаніц з першых, другіх і трэціх класаў Бельскага беларускага ліцэя пад кіраўніцтвам настаўніцы роднай мовы мгр В. Рышчук і пры дапамозе Я. Крупы зрабілі даволі ўдалую інсцэнізацыю паэмы нашага рэдакцыйнага калегі М. Шаховіча „Святая ноч". Чароўная маладосць, свежасць дэкламацыі, грацыя руху, родныя напевы ў музычным фо-

**(Працяг на стар. 4)**

# ХІБА Ў ВЫХАВАННІ

Пісьманосец кінуў у нашу паштовую скрынку ліст, адрасаваны суседцы з чацвертага паверха. Тата сказаў, каб я аднёс ліст па назначэнню.

Убачыўшы ліст, суседка абрадавалася.

— Ты добры хлопчык, — сказала яна, пагладзіўшы мяне па галаве. — Можа зойдзеш на хвілінку?

Я ўвайшоў, хоць не бачыў у гэтым ніякага сэнсу.

— Я пакажу табе свайго новага сыночка, — сказала суседка і ўвяла мяне ў пакой, дзе ў куце стаяла калыска.

У калысцы ляжала нешта, нагадваючае вялікага чарвяка, падсмажанага на агні.

— Ён цудоўны, ці не праўда? — расчулена спытала суседка.

— Нічога сабе, — згадзіўся я. — Напэўна, нядаўна нарадзіўся?

— Нарадзіўся? — перапытала яна. — Ён не нарадзіўся. Яго прынёс бусел.

Я ўважліва паглядзеў на яе. Яна не жартавала.

— Ды буслы яшчэ не прыляцелі, — сказаў я.

— Тыя буслы, якія прыносяць дзяцей, наогул нікуды не адлятаюць. — вытлумачыла яна.

Я яшчэ ўважней паглядзеў на яе. Не, яна сапраўды не жартавала.

— У вас не зусім дакладны погляд на гэта, — асцярожна сказаў я. — Дзяцей не прыносяць ніякія буслы. Нас вучылі ў школе, што дзеці нараджаюцца. Калі хочаце, я магу вам даказаць...

Суседка адступіла на некалькі крокаў.

— Калі ласка, ты мне нічога не даказвай! — нейк дзіўна завішчала яна. — І лепш ідзі адсюль.

— Не хочаце — не трэба, — сказаў я. — Але часам карысна даведацца што-небудзь новае.

Яна зрабіла рух, быццам збіралася выпхнуць мяне за дзверы.

— Ідзі адсюль, агіднае дзіця! — крыкнула яна. — Выбірайся, або я паклічу мужа!..

Я махнуў рукой і выйшаў.

Дзіўныя людзі. У школу яны не хадзілі, ці што?..

**Яцак Савашкевіч**



З „Весніка Задрыпоніі“

### ПЛАДЫ АКСЕЛЕРАЦЫІ

Дзіця Авоськаў загаварыла ў пяцімесячным узросце. Першымі яго словамі былі: „Зноў налізаўся, гора ты маё“.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...з 2 да 5 год дзіця без напружання ўспрымае лавіну інфармацыі і пачынае гаварыць настолькі добра, што адвучыць яго ад гэтай прывычкі ўжо немагчыма.



**Так прывык смактаць палец у дзяцінстве, што потым усё высмоктваў з яго. Нават квартальныя справаздачы.**






### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ты ведаеш, дарагі, трэба нам быць больш асцярожнымі, калі мы гаворым у прысутнасці Луіджы. Ён сёе-тое ўжо пачынае разумець і задае далікатныя пытанні:

— Напрыклад?

— Напрыклад, чаму я выйшла за цябе замуж.

*

— Чаму ў цябе такі чырвоны нос, татка?

— Таму, што паўночны вецер заўсёды дзьме ў нос, — адказаў бацька. — Будзь добры, сынок, перадай мне графінчык.

— Ты што, не чуў, што цябе прасіў бацька? — умяшалася маці. — Падай бацьку паўночны вецер.

*

Жонка скардзіцца мужу:

— Ах, Карл, які ж усё-ткі сорам, што дзіця ў Грэтхен нарадзілася да вяселля...

— Што ж тут саромнага? Адкуль яно магло ведаць, калі будзе вяселле?



*Без слоў.*

### ДЛЯ ДЗІЦЯЦІ

— Калі ласка, дайце мне вітаміны для дзіцяці.

— Вам „А“, „В“ ці „С“? — спытаў аптэкар.

— Усё роўна, яно пакуль не ўмее чытаць.

### ЛЕПШ МАЎЧАЦЬ

Бацька да сына-першакласніка:

— Сяргейка, настаўніца кажа, што калі б яна цябе не спытала, ты заўсёды маўчыш, быццам і гаварыць не ўмееш. Можаш ты мне гэта вытлумачыць?

— Ведаеш, калі мяне настаўніца пытае і я адказваю — то яна мне ставіць двойку, а калі маўчу — нічога не ставіць.

### БЕДНЫ ТАТА

Маленькая дзяўчынка пытае ў бацькі:

— Татачка, а цябе калі-небудзь біла твая мамачка?

— Не, толькі твая.

# У ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ

Сад дзіцячы, нібы вулей,
Цэлы дзень звініць, гудзе.
Ці матуля, ці бабуля,
Ці сястрычка, ці татуля
Кожны дзень сюды вядзе
Кацю, Светку і Галінку,
Зосю, Эдзіка і Нінку,
Пецю, Славіка і Жану,
І Алёну, і Аксану,
Казіміра, Віцю, Сашу,
Таню, Раю і Наташу,
Вову, Мішу, Зіну, Толю,
Косцю, Ігара ды Полю.
А над садам —
Сонца свеціць.
Добра ў гэтым садзе
Дзецям.
Тупацяць ды скачуць
Ножкі
Па сцяжынках
Ды дарожках,
Ля якіх растуць бярозкі,
Заплятаюць вербы коскі,
І апраткаю зялёнай
Ціха шэпчуць
Вербы, клёны.
А на клумбах кветкі, кветкі —
Усе прыгожыя, як дзеткі.
У садзе — гульні,
У садзе — спевы
І направа,
І налева.
А сягоння дзецям раннем
Задалі адно пытанне:
— Кім з іх кожны хоча быць?..
Дружна у адказ гучыць:
— Касманаўтам, машыністам,
Інжынерам і артыстам,
Лётчыкам, швяёй, танкістам,
Прадаўцом, будаўніком,
Урачом-чараўніком,
Поварам і футбалістам,
Токарам і хакеістам,
Трактарыстам, рыбаком,
Столярам, кранаўшчыком,
Паштальёнам і ткачыхай,
Настаўніцай і краўчыхай,
Выхавацельніцай сада
За дзяцей адказы рада,
І, ўсміхаючыся, кажа:
— Каб збыліся мары вашы,
Трэба з'есці манку-кашу.

**Віктар Шымук**





*— А ён першы пачаў!*

### ГУМАР З БАРАДОЮ

Хлапчук вёў на вяроўцы цяля, якое кідалася ва ўсе бакі. А тут якраз ураднік праязджаў.

— Ты чаму перада мною шапкі не здымаеш, хам?! — закрычаў ён на хлапца.

— Калі ж мае рукі заняты, пане ўраднік. Злезьце, калі ласка, з воза, патрымайце цяля, а я шапку здыму.



*Каляска для будучага астранома.*

### ПОЗНА

Малая Волечка маме:

— Мама, забяры мяне сёння з дзетсада раней.

Мама: — А хіба я цябе позна забіраю?

Волечка: — Аўжэш. Як толькі настане зіма, ты чамусь за мною прыходзіш уначы.

### ЗАБАЎКА

Хто нарайў табе купіць Міхаську гэту небіткую забаўку?

— Няўжо разбіў? Гэтага не можа быць!

— Не можа быць! Ён разбіў ёю ўвесь сервіз на 12 персон.




### ПАТОМНАЯ РЫЗЫКА

У многіх сем'ях мае месца пераемнасць прафесій. Так здарылася і ў сям'і Рондаляў з Лос-Анджэлеса. Яшчэ старэйшы Рондаль, дзед, у свой час спыніў увагу на складанай і небяспечнай ролі каскадзёра. Потым яго прафесію пераняў сын, потым унук Рэд. Зараз юнаку толькі споўнілася шаснаццаць гадоў, ён яшчэ вучыцца ў школе, але ўжо на ўсё жыццё выбраў сабе справу бацькі і дзеда і дабіўся значных поспехаў. Кожны дзень, вярнуўшыся з заняткаў, ён робіць па некалькі саскокаў з дзесяціметровага даху свайго дома на кучу пенапласту. І гэтак — з дзесяцігадовага ўзросту.

Бадай, нехта можа сказаць: ну, што тут дзіўнае? Хлапчукі ўсе схільныя да рызыкоўных гульняў, і сярод іх часам трапляюцца такія, якія любяць павыхваляцца сваёй смеласцю перад сябрукамі. Яно так, але што датычыцца Рэда Рондаля, то ён кіруецца не гэтымі легкадумнымі меркаваннямі. Яму неаднаразова даводзілася саскокваць са скал, выбягаць ахопленым полымем з пажару, выконваць і іншыя незвычайныя трукі. За кожнае выступленне на кіназдымках яму плацяць 300-700 долараў. Так што Рэд даўно, як кажуць, увайшоў у смак, і вельмі шкада будзе, калі аднойчы, не разлічыўшы свае сілы і магчымасці, гэты таленавіты юнак стане ахвярай свaіх небяспечных заняткаў. Шкада, што маладому чалавеку ў інтарэсах заробку даводзіцца так рызыкаваць здароўем і нават жыццём.




**Не так падступна зязюля, як зязюліны дзеткі.**